Далучайся!

Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 17 (278) ЛІСТАПАД 2019 ГОДА

**БЕЛАРУСКІ АФАРЫЗМ**

***"Будзе незалежнай Беларусь - будзе ўсё. У тым ліку мова і культура. Ня будзе незалежнасьці - хутка ня будзе нічога!"***

***Васіль Быкаў***

ВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ

## ЗАЦВЕРДЖАНЫ ПРАЎЛАДНЫ КАНДЫДАТ

**Па выніках галасавання ў Палату прадстаўнікоў сёмага склікання па Гарадоцкай акрузе пераможцам зацверджаны праўладны кандыдат.**

18 лістапада падведзены вынікі працы участковых камісій па Гарадоцкай выбарчай акрузе № 21. Прапанавана лічыць дэпутам Палякову Ірыну, 4 сакавіка 1979 года нараджэння, старшыню Віцебскай раённай прафсаюзнай арганізацыі Беларускага прафесійнага саюза работнікаў аграпрамысловага комплексу, якая пражывае ў в. Падбярэззе Віцебскага раёна, беспартыйная. За гэта прагаласавалі амаль усе члены акруговай камісіі пры адным устрымаўшымся.

Адбылося пасяджэнне Гарадоцкай акруговай камісіі № 21 па вызначэнню пераможца выбарчай кампаніі на тэрыторыі акругі ў Палату прадстаўнікоў сёмага склікання. Старшыня акруговай камісіі Наталля Бераснева зачытала праект пратакола аб выніках выбараў дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь сёмага склікання па Гарадоцкай выбарчай акрузе № 21.

У гэтым пратаколе агульная колькасць выбаршчыкаў, уключаных у спісы грамадзян, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах — 62935.

Колькасць выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у галасаванні — 55410.

Колькасць галасоў, пададзеных за:

— Лыхолата Максіма Аляксандравіча — 6266;

— Палякову Ірыну Міхайлаўну — 37592;

— Фядзькова Рыгора Сяргеевіча — 2213;

— Шчамлёва Аляксандра Міхайлавіча — 2084.

Колькасць галасоў, пададзеных супраць усіх кандыдатаў — 6651.

Лік несапраўдных бюлетэняў — 604.

Пасля было заяўлена, што гэта пытанне трэба зацвердзіць і выпраўлена, што дадзеную прапанову трэба зацвердзіць. Дадзеную прапанову зацвердзілі амаль аднагалосна пры адным устрымаўшымся.

Пры галасаванні ўстрымаўся Анатоль Родзік, сябар камісіі ад Беларускай партыі левых «Справядлівы свет». Анатоль Родзік сваю пазіцыю патлумачыў тым, што лічыць вылучэнне Ірыны Паляковай не магло адбыцца без выкарыстання адміністрацыйнага рэсурсу, бо чалавек, які жыве і працуе ў Віцебскім раёне не мог сам стварыць ініцыятыўную групу ў 141 чалавека і правесці сходы працоўных калектываў педагогаў Гарадка з двух школ і трох дзіцячых установ ня ведама як атрымаўшых памяшканне або сход у Шумілінскай ПМК-70. І не зразумела, чаму грамадзянка Палякова І.М. не вылучалася ў працоўным калектыве з Альгова, дзе яна адказвала за ідэалогію.

На пытанне старшыні камісіі прывесці факты Анатоль Леанідавіч заявіў, што ён сумняваецца ў праўдзівасці перамогі Ірыны Паляковай таму і устрымаўся, а не галасаваў супраць.

На гэтым пасяджэнне акруговай камісіі было закрыта.

**Л. Антонаў**

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

ХАРЧАВАННЕ

## ЗАПРАЦАВАЎ ПЕРШЫ СУШЫ-БАР

**З пачатку кастрычніка ў культурна-асветніцкім цэнтры «Гарадок» для аматараў усходняй ежы запрацаваў першы сушы-бар сеткі "Сушы Дом".**

Памяшканне ў КАЦ «Гарадок» ужо не раз меняла сваіх арэндатараў, якія пры значнай арэнднай плаце неслі страты. Сёння гэтым арэндатарам стала сеткавая структура «Сушы Дом», якая дзейнічае і ў Віцебску.

Гэтая кропка найперш цікавая аматарам усходняй ежы з марскіх прадуктаў. І то што раней прыйшло у буйныя гарады сёння стала даступна і ў нашым райцэнтра. У сушы бары дзейнічаюць сучасныя метады абслугоўвання спажыўцоў. Кожны тыдзень з панядзелка па чацвер існуе Акцыя блюда коштам у 3,90 рубля.

У памяшканні маецца вялікае меню, на якім прадстаўлены назвы і кошты 40 блюд коштам ад 2,3 рубля да 30 рублёў.

Таксама ў сушы-бары дзейнічае бар , дзе прапануецца кава, напоі і піва.

Зразумела, што «Сушы-Дом» мае сайт: http://sushi-dom.by/ дзе вы знойдзеце больш інфармацыі пра гэты сэрвіс.

Па словах персаналу ў першы месяц штодня сушы-бар наведвала каля 150 чалавек, а ў другі месяц каля 100...

Працуе сушы-бар з 11.00 да 23.00.

**Л. Антонаў**

КРЫМІНАЛ

## ДАЎЖНІК НАКІНУЎСЯ НА СУДОВАГА ВЫКАНАЎЦА

**Перад судом Гарадоцкага раёна нядаўна паўстаў беспрацоўны жыхар райцэнтра. Яго абвінавацілі па артыкулу «Гвалт альбо пагроза ў дачыненні да службовай асобы, якая выконвае службовыя абавязкі, або іншай асобы, якая выконвае грамадскі абавязак». Мужчына напаў на судовага выканаўца, якая прыйшла апісваць яго маёмасць.**

Стрэліў з стрэльбы, накінуўся з кулакамі, прыставіў да горла нож ... Нападу з боку даўжнікоў падвяргаюцца дзясяткі судовых выканаўцаў. Даць адпор яны не маюць права: па законе толькі міліцыя можа заступіцца за далікатных дзяўчат у форме, якіх, дарэчы, у службе прымусовага выканання Мінюста больш за 80 адсоткаў.

Свае дамы ад судовых выканаўцаў даўжнікі абара-няюць з асаблівай стараннасцю. Зняважлівых словамі ужо нікога не здзівіш, у ход ідуць кулакі і нават ... вілы.

Закрытая чэрапна-мазгавая траўма, страсенне галаўнога мозгу, выцятыя раны твару, сінякі — так скончыўся для начальніка Мастоўскага аддзела прымусовага выканання Аляксандра Кацькова чарговы візіт: «Чалавек павінен па аліментах мільёнаў 5 (ад рэдакцыі — да дэнамінацыі). Не працаваў, любіў выпіць. Увогуле, заходзім з напарнікам у дом, папярэджваем аб вопісу маёмасці, запрашаем панятых. Мікалай М., што звыкла, памахаў рукамі, пакрычаў, а потым моўчкі выйшаў. Вярнуўся з ... віламі ў руках і пайшоў у наш бок». Гэта доўжылася секунды.

Саша ледзь паспеў схапіць рукою вострыя пікі і адвесці іх ад сваіх грудзей, як М. тут жа пусціў у ход кулакі. Праз хвіліны ў гэтай гісторыі будзе разбірацца міліцыя, пазней — следства і суд. Кацькоў апынуўся ў бальніцы, буян на паўтара года — у калоніі. «Выходзіць, што адзінае наша зброя — цярпенне і слова, — сказаў на заканчэнне начальнік апісання і тлума. — Цяпер па адрасах буяных выязджаем з міліцэйскай аховай».

Гэта адбылося ў Мастоўскім

*(працяг на стар. 2)*

АПЫТАННЕ

## КАМПАНІЯ НЕ СПРАВЯДЛІВАЯ І НЯ ЧЭСНАЯ

**З 21 па 26 лістапада ў групах сайта http://haradok.info сацыяльных сетак УКантакце і Аднакласнікі праводзілася апытанне наконт справядлівасці і чэснасці прайшоўшай кампаніі ў Палату прадстаўнікоў. Пытанне было сфармулявана так:" Ці лічыце справядлівай і чэснай выбарчую кампанію ў Палату прадстаўнікоў 7скл?"**

З 44 удзельнікаў апытання ў ВК, якія мелі магчымасць выбраць некалькі варыянтаў адказу, найбольшую колькасць працэнтаў набраў адказ "не, бо не падлічвалі бюлетэні галосна і адкрыта" -- 45.45 %. На другім месцы такі варыят:" не, бо быў задзейнічаны адміністрацыйны рэсурс" -- 25 %, а на трэцяй пазіцыі варыянт абыякавасці да палатачнай кампаніі: "мне гэта не цікава" – 25%.

Замыкае наш рэйтынг варыянт "так" – 6,82%. Гэта сведчанне таго, што маладыя людзі, якія складаюць 77% нашых наведвальнікаў не лічаць справядлівай і чэснай выбарчую кампанію ў Палату прадстаўнікаоў 2019 года. І перад апошнім месцам, набраўшы 15,91% варыянт адказа: "не, бо прымушалі датэрмінова галасаваць".

Дадзенае апытанне не з'яўляецца рэпрэзінтатыўным, а адлюстроўвае меркаванне удзельнікаў апытання ў нашай групе ВК.

Аналагічныя пытанне задаваліся ўдзельнікам групы сайта на Аднакласніках. Нашы больш сталыя чытачы праявілі меншую актыўнасць і ў працэнтным вымярэнні вынікі былі такія: "так" - 4.8%; не, бо прымушалі датэрмінова галасаваць" -- 9.5%; " не, бо не падлічвалі бюлетэні галосна і адкрыта" -- 28.6%; "не, бо бый задзейнічаны адміністрацыйны рэсурс" -- 47.6%; "мне гэта не цікава " -- 9.5%. Тут адрозненне з галасаваннем на ВК у тым, што больш сталыя рэспандэнты указваюць на выкарыстанне адміністрацыйнага рэсурсу, а не на адсутнасць падліку галасоў адкрыта і галосна.

**Л. Антонаў**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размяшчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе стварэацца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

КРЫМІНАЛ

(пачатак на стар. №1)
раёне, а ў Гарадку сітуацыя развівалася так.

Калі прадстаўнік закона патэлефанавала ў дзверы, 40-гадовы гарадкачанін спярша хацеў выправадзіць яе дадому. У грубай форме заявіў: «Ідзіце! Маёй маёмасці ў гэтай хаце няма!».

Дзяўчына і праўда збіралася сысці, але ёй усё ж адкрылі дзверы, пра гэта кажа Наталля Матлах, памочнік пракурора Гарадоцкага раёна. А далей неплацельшчык павёў сябе неадэкватна: пачаў крычаць, махаць рукамі, выхопліваць дакументы, а потым і зусім накінуўся на дзяўчыну з кулакамі. У нейкі момант забіяка схапіў шарыкавую ручку і, накіраваўшы яе на судовага выканаўцы, заявіў: «Я хачу яе забіць».

Калі работнік аддзела прымусовага выканання ўцякла са злашчаснай кватэры, то звярнулася ў бальніцу і міліцыю. А галоўны фігурант справы, акрамя даўгоў за тэлефон і паслугі сувязі, яшчэ дадаў у свой «паслуговы спіс» 366-ы артыкул Крымінальнага кодэкса. Суд прысудзіў абвінавачанага да двух месяцаў арышту. Прысуд уступіў у законную сілу.

**"СБ. Беларусь сёння"**

*Пераклад рэдакцыі на беларускую мову*

ПАЖАР

# МАСАВЫЯ ПАЖАРЫ НА ВІЦЕБШЧЫНЕ

**Віцебскай вобласці за мінулыя выхадныя здарылася 17 пажараў - такая колькасць больш характэрна для тыднёвай статыстыкі, паведамілі карэспандэнту БЕЛТА у абласным упраўленні МНС.**

Пажары адбыліся ў Полацку, Віцебску, Браслаўскім, Верхнядзвінскім, Віцебскім, Глыбоцкім, Полацкім, Сенненскім, Шумілінскім, Гарадоцкім, Пастаўскім, Талачынскім і Докшыцкім раёнах. У апошніх трох здарэння скончыліся трагічна - з-за неасцярожнасці пры курэнні загінулі трое мужчын.

24 лістапада ў 19-27 паступіла паведамленне аб пажары ў хляве ў в. Шикени Гарадоцкага раёна. У выніку пажару ў хляве знішчаны дах, потолочное перакрыцце, пашкоджаныя сцены. Прычына пажару высвятляецца.

Па прычыне няспраўнага пячнога ацяплення або парушэння правіл эксплуатацыі печаў адбылося 30% узгаранняў. На дадзеным факце ва ўпраўленні акцэнтавалі асаблівую ўвагу, падкрэсліўшы неабходнасць выканання павышаных мер бяспекі ў прыватных дамах у сувязі з надыходам пахаладанняў. «Дадзеная тэма знаходзіцца на нашым пастаянным кантролі на працягу ўсяго года, рэгулярна праводзяцца абследавання прыватных домаўладанняў. Пры гэтым асаблівая ўвага надаецца самотна якія пражываюць грамадзянам, шматдзетным і няшчасным сем'ям, іншым якія жывуць у нястачы ў павышаным кантролі катэгорыям жыхароў», - адзначылі ва ўпраўленні.

Усяго з пачатку бягучага года на тэрыторыі Віцебскай вобласціадбылося814пажараў. Гэта на 3% менш у параўнанні з аналагічным перыядам 2018 года. У агні загінулі72 чалавека. Асноўнымі прычынамі здарэнняў сталі неасцярожнасць пры курэнні і парушэнне эксплуатацыі электрасетак і прыбораў ацяплення

**Т. Гаражанка**
**паводле сайта МНС**

ПРАЎДА ЖЫЦЦЯ

# КРЫК ДУШЫ ВІЦЕБСКАГА ЧЫНОЎНІКА

**На фермах Віцебскай вобласці няма каму даіць кароў. Віцебскі аблвыканкам разаслаў кіраўнікам сельгаспрадпрыемстваў загад: замяняць даярак, якія не выйшлі на працу, іншымі супрацоўнікамі — бухгалтарамі і ўсімі, хто ўмее. Здавалася б, смешна, аднак на справе ў калгасах Віцебшчыны катастрафічная сітуацыя.**

У каментарыі Еўрарадыё віцебскі чыноўнік не стрымаўся і расказаў праўдуматку пра сітуацыю ў сельскай мясцовасці.

«Каб не дапусціць спаду вытворчасці малака, у выпадку нявыхаду апаратараў машыннага даення (далей — аператар) на працу ў тэрміновым парадку прымайце меры па замацаванні загадам па сельскагаспадарчай арганізацыі працаўнікоў гаспадарак (бухгалтэрыя і іншыя) для замены аператараў, якіх няма», — паведамляецца ў дакуменце, які апублікаваў блогер Nexta.

Атрымліваецца, што заатэхнік ці эканаміст прадпрыемства на ўсялякі выпадак мусіць умець даіць кароў?

**«Працуюць разумова адсталыя, алкаголікі»**

Мы звязаліся з першым намеснікам старшыні камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні Віцебскага аблвыканкама, які падпісаў загад. Уладзімір Машэра ў размове з Еўрарадыё амаль адразу зрываецца. Відавочна, што сітуацыя з даяркамі ўжо сядзіць у яго ў пячонках:

«Няма каму даіць кароў! — эмацыйна ўсклікае абласны чыноўнік. — Каб падабралі работнікаў замест даярак, якія п'юць... У нас сапраўды не хапае даярак. Працуюць разумова адсталыя, алкаголікі! Часта каровы не дояцца, таму напісалі рэкамендацыйны ліст: калі даяркі зап'юць, каб выйшлі іншыя людзі і падаілі кароў».

**«Кароў даіць — гэта не касмічны карабель запускаць!»**

Чыноўнік гаворыць, што даяркі працуюць да першай зарплаты, а потым сыходзяць у запой і не прыходзяць на ферму. Даходзіла да таго, што кароў не даілі суткамі.

«Вы прыязджайце ў калгас, паглядзіце, што адбываецца! — абураецца віцебскі чыноўнік. — У калгасе працуе 150 чалавек, але ніхто не хоча ісці на ферму працаваць».

Уладзімір Машэра тлумачыць, што абласныя ўлады напісалі гэты ліст, каб у калгасах навялі парадак: «Трэба замацаваць людзей, каб кароў не губілі. Заробкі трэба плаціць, а зімой адзіная крыніца — гэта малако».

Ён кажа, што ў калгасах з усіх супрацоўнікаў хоць нехта, але ўмее карыстацца даільным апаратам: «Гэта не касмічны карабель запускаць! Калі карову не даіць, яна запускаецца:малако перагарае і карова ператвараецца ў быка. А даярка дома зачынілася і п'е. Прапіла ўсе грошы — вяртаецца і доіць далей».

**«Кожны дзень да гэтых баб ходзяць новыя мужыкі. Да ночы п'янства, музыка!»**

З праблем у сельскай гаспадарцы Уладзімір Машэра пераходзіць да праблем краіны. Відаць, што чалавеку набалела.

«Кожны год у Беларусі знікае раённы цэнтр. Пaглядзіце, як будуюць жыллё ў горадзе! А хто туды едзе? Уладкоўваецца прыбіральшчыцай, нараджае трох дзяцей ад розных людзей — ёй ільготны крэдыт, — кажа чыноўнік. — У Шуміліне ўвялі гатовы дом. Людзі там стаялі на чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў. Яна маць-гераіня — трое дзяцей. Дык там кожны дзень галівуд! Кожны дзень да гэтых баб ходзяць новыя мужыкі. Да ночы п'янства, музыка! Народ гуляе».

Што збіраюцца рабіць з даяркамі віцебскія ўлады? Пакуль канкрэтнага плана вырашэння праблемы няма. Каб каровы на фермах вобласці былі падоеныя, з горада збіраюцца вазіць часовых работнікаў.

**https://euroradio.fm**

КАРУПЦЫЯ

# РАХУНАК ЭКС-КІРАЎНІКУ СУСЕДНЯГА РАЁНА

**Амаль на 140 тысяч долараў выставілі рахунак быламу кіраўніку Шумілінскага раёна, якога абвінавачваюць у карупцыі.**

У Віцебскім абласным судзе працягваюцца слуханьні крымінальнай справы ў дачыненьні былога кіраўніка Шумілінскага раёну Аляксандра Снарава.

Ён абвінавачваецца ў атрыманьні хабару, службовым падлогу, злоўжываньні службовымі паўнамоцтвамі — агулам па пяці артыкулах Крымінальнага кодэксу (арт.242, ч.3 арт.424, ч.3 арт. 426, ч.2 арт.427, ч.2 арт. 430).

**Справу разглядае судзьдзя Тацяна Дашкевіч.**

Былога старшыню Шумілінскага райвыканкаму абвінавачваюць ва ўхіленьні адпагашэньня крэдыторскай запазычанасьці, у злоўжываньні службовымі паўнамоцтвамі і іх перавышэньні, у службовым падлогу з мэтай скажэньня справаздачнасьці і ў атрыманьні хабару паўторна альбо ў буйным памеры.

Аляксандар Снараў ня ўтрымліваецца пад вартай. У якасьці меры стрыманьня да яго ўжытая падпіска аб нявыезьдзе.

Паводле матэрыялаў справы, ён злоўжыў уладай і перавысіў службовыя паўнамоцтвы, будучы старшынём райвыканкаму. А ўхіленьне ад пагашэньня крэдыту, службовы падлог і атрыманьне хабару ўчыніў на папярэднім месцы працы, калі займаў пасаду дырэктара прадпрыемства «Крынкі» Лёзьненскага раёну.

19 лістапада суд дасьледаваў эпізоды, якія здарыліся ў лістападзе 2017 году і паводле якіх Снарава абвінавацілі ў перавышэньні службовых паўнамоцтваў.

Паводле сьледзтва, былы кіраўнік раёну неаднаразова аддаваў незаконныя загады дырэктару Шумілінскага ПМК-70 наконт аказаньня транспартных паслугаў з аплатай па заніжаных коштах ці на бязвыплатнай аснове.

На паседжаньні заслухалі паказаньні сьведкаў — выканаўцы (на той момант) абавязкаў дырэктара Шумілінскага ЖКГ і асабістага кіроўцы старшыні райвыканкаму, а таксама агучылі пісьмовыя паказаньні кіроўцы ПМК-70.

Былы асабісты кіроўца Снарава прызнаўся, што ў ягоныя абавязкі не ўваходзіла суправаджэньне і выгрузка грузу. Але сказаў, што яму «было ня сорамна» і што ён не «крыўдуе на свайго кіраўніка», бо начальнік езьдзіў на службовым аўто самастойна, а яму, кіроўцу, «не было чым у тыя дні заняцца».

**Снараў ня лічыць сябе вінаватым.**

Паводле пісьмовых паказаньняў кіроўцы ПМК-70, які 3 і 15 лістапада перавозіў для Снарава дошкі ды іншыя піламатэрыялы ў Лёзна, ён атрымліваў ад дыспэтчаркі ПМК пуцявыя лісты, у якіх указаныя маршруты не супадалі з рэальным рухам яго машыны ў тыя дні.

Гэтак, 3 лістапада кілямэтраж аўтамабіля склаў 383 км, 15 лістапада — 215 км. У пуцявым лісьце кіроўца ўказаў рэальны маршрут руху з Шуміліна да Лёзна, але дыспэтчарка прымусіла перапісаць пуцявыя лісты, падагнаўшы агульны прабег да 97 кілямэтраў, якія і аплаціў Снараў.

Снараў заявіў, што ня лічыць сябе вінаватым па эпізодах 3 і 15 лістапада.

**Шумілінскі райвыканкам таксама патрабуе кампэнсацыі.**

Суд далучыў да справы пазоўную заяву ПМК-70 аб спагнаньні матэрыяльнай шкоды, прычыненай Снаравым, на суму 153 рублі 66 капеек. Судзьдзя запытала абвінавачанага, ці мае ён намер на дадзеным этапе судовага разбору кампэнсаваць выдаткі ПМК. Снараў адказаў адмоўна.

Таксама была далучаная да матэрыялаў справы пазоўную заяву КУП «Крынкі» аб спагнаньні з абвінавачанага нанесенай ім шкоды ў памеры 277 186 рублёў, палова гэтай сумы мусіць быць выплачаная дзяржаве.

Цікава, што і Шумілінскі райвыканкам, якім Снараў кіраваў ад сьнежня 2015 году да лістапада 2018-га, просіць спагнаць з падсуднага кампэнсацыю шкоды ў памеры 4724 рублі 55 капеек.

Аляксандра Снарава ў лістападзе 2018 году замяніў на пасадзе старшыні Шумілінскага райвыканкаму Алег Быкаў, але і ён пратрымаўся нядоўга. Ад 29 ліпеня 2019 году Шумілінскім раёнам кіруе Віктар Гутараў. Супадзеньне ці не, але ў той жа дзень пачаўся судовы працэс над Снаравым.

Суд працягнецца 26 лістапада.

**С. Горкі**
**https://vitebskspring.org**

ГІСТАРЫЧНАЯ ПАДЗЕЯ

# «МАШТАБ ТАГО, ШТО АДБЫЛОСЯ Ў ВІЛЬНІ, ШАКАВАЎ УСІХ»

**Маштаб, з якім патрыёты Беларусі праз візавы кардон і працоўны графік прарваліся ў Вільню, каб ушанаваць Кастуся Каліноўскага, бацьку нацыі, — маштаб гэты шакаваў усіх. Летувіска сярэдняга веку, побач з якой мы з сябрамі сядзелі ў кавярні, на ламанай расейскай так прачулена распавяла нам, у якім яны захапленні ад беларусаў, аж прасякнуліся 22 лістапада духам свабоды пачатку 90-ых.**




Можна колькі заўгодна спрачацца пра спадчыну Паўстання, але гэтыя дні яскрава выявілі, дзеля чаго перадусім жыў і за каго перадусім змагаўся Кастусь Каліноўскі. Можна колькі заўгодна выразаць з эфіру бел-чырвона-белыя сцягі, але ўваскрэслыя з-пад вапны героі пераконваюць нас: праўда перамагае нават тады, калі ейных носьбітаў спыняюць фізічна.

Зласлівцы Беларусі спрабуюць даказаць, што Каліноўскі паляк і паўстанне чыста польскае, хоць сам Яська гаспадар з-пад Вільні ад самага пачатку пісаў: «Ад маскаля і паноў няма чаго спадзявацися, бо яны не вольнасці, а глуму і здзерства нашага хочуць» (Мужыцкая праўда, 1:16). Зласлівцы Каліноўскага спрабуюць даказаць, што Каліноўскі пераследаваў праваслаўных, хоць за падтрымку паўстання самі расейцы рэпрэсавалі 14 праваслаўных святароў. Ворагі Беларусі скрыгочуць, што Паўстанне было бяссэнсоўным, але ж на мапе свету няма сёння турмы народаў, але ёсць незалежныя Польшча, Летува, Беларусь, за свабоду якіх і змагаліся паўстанцы 1863—1864 гадоў.

Уявіць, што расступіцца зямля і героі Паўстання ўваскрэснуць з-пад вапны, не мог нават самы смелы патрыёт. Але Бог гэта зрабіў. І зрабіў не абы калі, а менавіта цяпер, калі на 30-ым годзе незалежнасці мы зноў разважаем пра страту незалежнасці. Зрабіў менавіта ў гэтыя дні, калі на 20-ым годзе будавання «Саюзнай дзяржавы» адміністрацыя зноў прэцца ў імперыю дзеля новай дамовы на рабства. Тое, што Каліноўскі недарабіў на зямлі ў целе, ён робіць сёння па-за целам. І разважаць над гэтай містэрыяй было б добра сёння кожнаму патрыёту. Каб упэўніцца ў сабе, каб умацавацца верою, што Госпад не кідае нас нават у сённяшнім нашым расцярушанні.

Творца гісторыі ўваскрасіў нас з-пад вапны турмы народаў, уваскрасіў з-пад вапны імперыі зла, Ён уваскрасіць нас і з-пад вапны часовай акупацыйнай адміністрацыі.

**Зміцер Дашкевіч**
**"Наша Ніва"**
**Ад рэдакцыі.**
**Тут ўсё: www.svaboda.org/a/30287197.html**

ПАМЯЦЬ

# «НЕ ИХ ГЕРОЙ»

**На горе Гедемина в Вильнюсе расступилась земля, чтобы хотя бы через 155 лет были отданы почести и дань памяти тем, кто жизнь положил за «белорусскую идею».**

Похоронили лидеров антироссийского восстания.

Похоронили романтиков.

Похоронили героев.

Но давайте понимать и то, что вчера хоронили людей, которые выступали за иной цивилизационный выбор для Беларуси.

«Не народ для ўрада, а ўрад для народа» — это не просто красивая цитата из Кастуся Калиновского. Это не просто лозунг. Не просто идея.

Тома исследований написаны на тему ментальных отличий Востока и Запада. Научно, аргументированно, подробно. Но если тезисно, то главные отличия таковы.

Запад — государство для человека. Восток — человек для государства.

Запад — стремление к постоянному обновлению, преобразованию жизни. Восток — созерцательность, медленное, плавное развитие, сохранение старого, приспособление к новому.

Западная цивилизация ориентирована на понятие отдельной личности; каждый человек существует как личность, а не как винтик в массе людей. Восточная цивилизация ориентирована на понятие массы людей, и человек обязан сознавать себя частицей этой массы.

Таким образом, получается, что географически Беларусь находится в Европе, но по духу, по содержанию, по ценностям мы сегодня не европейское государство. 155 лет назад Российская империя на штыках навязала нам этот цивилизационный выбор — восточную азиатчину. И, собственно, именно против этого слома культурного кода белорусов было восстание Кастуся Калиновского.

Александр Лукашенко не поехал в Вильнюс на перезахоронение останков повстанцев. Министерство обороны Беларуси отказалось прислать почетный караул. Логично. Потому что главному баю Беларуси и его байству крайне удобно править бесправной серой массой. Именно такой народ для них — важное приобретение и ценность. Калиновский не их герой. Они могли только скрежетать зубами на его похоронах.

Но для белорусов, которые видят себя европейцами, Кастусь Калиновский — герой. Мы должны вернуться в Европу. Для Беларуси это и логично, и правильно. А, значит, лозунг Калиновского «Не народ для ўрада, а ўрад для народа» — это даже не белорусская мечта, это наша цель.

**https://gazetaby.com**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ДОЛАРЫ ЯК ФАКТАР БЕЛАРУСКАЙ СТАБІЛЬНАСЦІ

**«Нельга не прызнаць справядлівасць ісціны аб тым, што маленькія заробкі здольныя разбурыць нават самую моцную дзяржаву». Залатыя словы, пагадзіцеся. Прамоўленыя яны былі адзіным палітыкам (АП) 18 траўня 2001 года з трыбуны другога Усебеларускага народнага сходу і сваёй актуальнасці да гэтага часу не страцілі.**




У верасні 2019 года сярэднестатыстычны беларус зарабіў 1108,5 рубля, што эквівалентна 538 доларам, ці 484 еўра. У параўнанні з заробкам сярэднестатыстычнага паляка, які атрымлівае каля 900 еўра, такія заробкі варта прызнаць маленькімі. Чым гэта пагражае моцным дзяржавам, сказана вышэй. Але ці можна лічыць такой Рэспубліку Беларусь, што прэтэндуе на званне донара еўрапейскай стабільнасці?

Адназначнага адказу на гэтае пытанне ў мяне няма, але вернемся да прамовы 18 траўня 2001 года: «Мы па крупінках збіралі дзяржаву і разбураную краіну. Калі пасля развалу СССР мы засталіся "без штаноў", дык спрабавалі іх пашыць ледзь не кожнаму, ды яшчэ змагаліся з "пятай" калонай унутры і дабрадзеямі звонку»…

Няма сёння праблемаў і са знешнімі «дабрадзеямі» на Захадзе. Што можам — прадаём. На што хапае сродкаў — купляем. Накont спрашчэння візавага рэжыму амаль дамовіліся. Прыгажосць! Вось толькі на Усходзе не ўсё так складваецца, як хацелася б. Але мілыя сварацца, толькі цешацца. Дзвюм галінам аднаго народа высвятляць адносіны — справа звыклая.

Аднак адсутнасць «пятай» калоны не адмяніла фантомных боляў, якія засталіся ў спадчыну ад «ліхіх 90-х». Адсюль нявызначанасць з выбарамі — яны ці то свята, ці то «вакханалія». Магчыма, мы маем справу са святам электаральнай вакханаліі. Такое вось «два ў адным» з нацыянальным каларытам.

Словы «сіла» і «стабільнасць» не з'яўляюцца сінонімамі. Стабільнасць могілак сілы жывым не дадае. Не дадае стабільнасці і наяўнасць практычна ў кожнага беларуса штаноў. Дзяржава абяцала «іх пашыць ледзь не кожнаму» — і сваё абяцанне яна выканала. Ды што там штаны. Беларусам даўно ўжо не сорамна адзначаць Дзень аўтамабіліста і дарожніка. У гэтым годзе ён прыпаў на 27 кастрычніка. Звернемся да афіцыйнай статыстыкі: колькасць легкавых аўтамабіляў у асабістай уласнасці грамадзян у 2018 года склала 3031 тысячу (2972,7 тысячы ў 2017 годзе), што дазволіла давесці забеспячэнне легкавымі аўтамабілямі на 1000 чалавек насельніцтва да 320 штук.

У 2018 годзе Беларусь імпартавала 86,9 тысячы легкавых аўтамабіляў (158,3% да 2017 года). Свет у цэлым скараціў куплю «жалезных коней» на 4%. Свет скараціў, а беларусы павялічылі, прычым павялічылі на непрыстойны працэнт для краіны, што выпрошвае крэдыты для рэфінансавання ранейшых крэдытаў. Якія толькі парадоксаў жыццё не падкіне, калі на коне шосты тэрмін! А без яго нам ніяк. Нас 9 454,8 тысячы, але максіма «Калі не ён, дык хто ж?» не губляе сваёй актуальнасці.

**Задача пастаўленая, мэта вызначаная**

…Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек — дзе лепш. Таму маленькія заробкі і здольныя разбурыць нават самыя моцныя дзяржавы. Зразумела, калі сіла дзяржаваў і дабрабыт грамадзян ніяк паміж сабой не звязаныя. Прыгадаем сумны лёс СССР з яго парытэтам з ЗША па колькасці ядзерных боегаловак, але з адсутнасцю парытэту па туалетнай паперы на адзін сярэднестатыстычны азадак.

Можна колькі заўгодна ўдасканальваць «беларускую мадэль» з дапамогай прапаганды, але права галасаваць нагамі нікому яшчэ адмяніць не атрымалася. Нічога незвычайнага ў гэтым няма. Іміграцыя — з'ява старая, як свет. Мінула каля 70 тысяч гадоў з таго часу, як прадстаўнікі віду Homo sapiens пакінулі Афрыку і за кароткі паводле гістарычных мерак час засялілі ўсе кантыненты, акрамя Антарктыды.

Адпаведную сацыялогію ў інтэрнэце я не сустрэў, аднак упэўнены, што сярод першых перасяленцаў пераважалі маладыя і прадпрымальныя. Як гэта адбілася на эканамічным развіцці Афрыкі — здагадацца нескладана. Для гэтага дастаткова звярнуцца да беларускага досведу. Тут напрошваецца прамая аналогія.

Праблема адтоку кадраў упершыню была ўсвядомленая кіраўніцтвам краіны яшчэ ў 2008 годзе, што лёгка пацвердзіць цытатай з паслання АП за адпаведны год: «На канец пяцігодкі (2010 год. — Заўвага рэд.) нам трэба заробтную плату давесці, баюся казаць, але да 700 долараў, нікуды не падзенемся. 500 долараў

*(працяг на стар. 4)*

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

*(пачатак на стар. №3)*

будзе мала. Трэба 700 — сярэдні заробак па краіне. Тады мы зможам утрымаць стабільнасць у нашым грамадстве».

Задача па дасягненні 700 долараў нарадзілася не на пустым месцы. АП ішоў «ад жыцця» — ад жыцця ў Расіі, у якой, згодна з паведамленнямі Мінстата, у сакавіку 2008 года заробатная плата склала 688 долараў.

Задача пастаўленая, мэта вызначаная. Ва ўрадзе пстрыкнулі абцасамі і ўзялі пад казырок. 20 траўня на пасяджэнні прэзідыума Саўміна намеснік міністра фінансаў Андрэй Харкавец запэўніў, што да канца 2009 года сярэдні заробак складзе 550, а да канца 2010 года — 700 долараў! Калі ўлічыць, што стартаваць даводзілася з адзнакі ў 390 «зялёных», то па ўзроўню аптымізму беларускі ўрад мог смела прэтэндаваць на трапляннe ў «Кнігу рэкордаў Гінеса».

Вынік шчоўкання абцасамі вядомы: індэкс спажывецкіх цэнаў у апошні год пяцігодкі (снежань 2011 года да снежня 2010-га) склаў 208,7%, а беларускі рубель да долара патаннеў у тры разы.

**Лекары ў медыцыне — не галоўнае**

Заснавальнікі савецкай дзяржавы спрабавалі «дагнаць і перагнаць» заходні свет па вытворчасці чыгуну і сталі на душу насельніцтва — і мелі ў гэтым поспехі. Але гэты паказчык выйшаў з моды яшчэ пры дарагім Леаніду Іллічу Брэжневу. Як ні стараліся штатныя прапагандысты, але прытармазіць бесперапынны рост матэрыяльных і духоўных патрэбаў савецкага чалавека ім было не дадзена.

…Падчас размовы з журналістамі было згадана пра нядаўняе рашэнне Польшчы ўвесці новыя правілы для лекараў з-за межаў Еўрасаюза, якія адмяняюць, у прыватнасці, абавязковае пацверджанне дыпломаў. Адказ АП цытую паводле прэс-рэлізу: «Нас гэта хвалюе, але не напружвае. Міністр гаворыць, што на працягу двух гадоў наогул гэту праблему (недахопу ўрачоў у медустановах. — Заўвага рэд.) здымем. Таму, можа, і нічога страшнага, што чалавек паехаў, недзе чамусьці падвучыўся. Галоўнае, каб ён не забываў пра краіну, вяртаўся назад і дапамагаў ёй».

Лекарам АП паабяцаў да 2025 года падвойныя заробкі. Але лекары ў медыцыне — не галоўнае. Галоўнае — наяўнасць сучаснага абсталявання. «Трэба так зрабіць, каб наш лекар быў абсталяваны, як замежны», — падкрэсліў АП.

Зводзіць мадэрнізацыю да завозу новага абсталявання — гэта не ў Беларусі прыдумалі. Яшчэ пры цару Гароху было заўважана, што абсталяванне ніякіх патрабаванняў да якасці дзяржаўных інстытутаў не прад'яўляе. Абсталяванню глыбока абыякава, дапускаюць кандыдатаў ад апазіцыі да выбараў або здымаюць паводле надуманых прычынаў. Яно гатовае пакорліва гадамі стаяць у скрынях нераспакаваным, і пры гэтым ціхенька маральна састарэць.

З жывымі людзьмі складаней. Маўчаць (гадамі стаяць у скрынях нераспакаванымі) згаджаецца шмат хто, але далёка не ўсе. У гэтым і палягае галоўная праблема ўлады, якая ўзяла на сябе абавязак пашыць ледзь не кожнаму беларусу штаны.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ПАРАДЫ

# ШТО РАБІЦЬ З ФАЛЬСЫФІКАТАРАМІ ВЫБАРАЎ

**Што я чула ад калег, якія бралі ўдзел у працы «выбарчых» камісій, пра фальсыфікацыі? Чула такое: «Заўтра ў камісію. Нешта я баюся. Чаго баюся? Усяго. Ладна, няважна. Тыдзень патрываць». Чула такое яшчэ: «Мы царовы людзі. Нам дзяржава плаціць грошы. Мы служым дзяржаве, а не камусьці яшчэ». Чула і такое: «А нашто нам фальсыфікаваць? У нас усё па праўдзе».**

Суровая праўда ў тым, што людзі, якія сядзяць там, у гэтых камісіях, ніколі не прызнаюцца ані вам, ані нават сабе, што яны фальсыфікуюць выбары. Яны робяць усё што заўгодна: выконваюць загад, трываюць, бароняць сваю ўладу, прасоўваюць свайго кандыдата, які паабяцаў школе ці прадпрыемству залатыя горы за перамогу (і ён выканае абяцаньні, не хвалюйцеся!) — яны робяць усё што заўгодна, але не фальсыфікуюць. Таму дагрукацца да іхнага сумленьня зусім немагчыма.

Сумны парадокс сытуацыі заключаецца ў тым, што ўва ўсіх іх ёсьць пэўнае сумленьне, і менавіта таму яны ведаюць, як і чым яго прывесьці ў норму. Яны ўсё сабе патлумачылі, і сумленьне іхнае ў парадку. Аргумэнты, якімі яны дазволілі сабе фальсыфікаваць што заўгодна, жалезныя, таму што выпрацаваныя для экстрэмальных сытуацый.

Вы не сустрэнеце там аніводнага чалавека, якога можна назваць прыстойным, на іх ня ўзьдзейнічаюць словы аб прыстойнасьці. За столькі гадоў існаваньня нашай псэўдавыбарчай сыстэмы сьпісы гэтых людзей шматкроць праверaныя і загартаваныя ў баях. Любая заклікі да іх бессэнсоўныя, любыя высокія словы пра мараль і закон — пыл. І ня толькі падчас працы ў камісіях. Наогул.

З самага дзяцінства гэтыя людзі жывуць ва ўмовах, у якіх закон не вырашае нічога, а асабістыя сувязі і ўменьне прагінацца — усё. Менавіта грунтуючыся на сваім, падтрыманым жыцьцёвым досьведам пакаленьняў, разуменьні законаў і маралі, яны рабілі кар'еры, будавалі кватэры, вучылі дзяцей, здабывалі ўласны дабрабыт і спакой. Сустракаюцца сярод іх і настаўнікі, шараговыя — радзей за тых, хто абцяжараны пасадай, а значыць, дадатковым прэсам залежнасьцяў, страхаў і дазволаў на зло. Цяжка быць дырэктарам альбо завучам і не фальсыфікаваць што заўгодна кожны дзень з розных нагодаў. Проста таму, што так працуе сыстэма, і ня толькі выбарчая.

Мне пішуць: «Ганна, зьвярніцеся да настаўнікаў, каб яны не фальсыфікавалі выбары». Я ня маю такіх слоў, каб да іх зьвярнуцца з простым заклікам. Баюся, такіх заклікаў наогул не існуе. Паводле іхнага разуменьня, яны не фальсыфікуюць. Яны так выконваюць свой грамадзянскі абавязак, бароняць сваіх дзяцей і забясьпечваюць унукаў.

Гэта моцна нагадвае мне савецкіх сьледчых трыццатых гадоў. Ніхто зь іх не сказаў ніколі нікому, і найперш сабе: я катаваў падсьледных, таму што хацеў катаваць. Яны ўсе былі ўпэўненыя, што так, і толькі так можна выканаць свой абавязак. І чым страшней, чым брудней гэта рабілася, тым часьцей яны думалі пра сябе: які ж я непахісны герой, і на што толькі я не ішоў дзеля сваёй краіны. Гэта вам не ракеты ў космас запускаць. Ракеты любы дурань запусьціць. Ты от паспрабуй, як я, кожны дзень у крыві ды крыках. Гэта табе не чысьценькімі рукамі паперкі перакладаць. Тожа мне, беленькія. Дзе б вы былі, беленькія, каб мы чорненькімі не былі тут дзеля вас.

Я казала сваёй былой каляжанцы: «Дык калі вы баіцеся, чаго туды ідзяце? Столькі нэрваў за сьмешныя грошы. Адмоўцеся, ды ўсё». Яна мне адказвала: «Хіба я толькі гэтага баюся? Я і працаваць кожны дзень баюся. Мне што, ад усяго адмаўляцца?» Я тлумачыла другой: «Вам не дзяржава плаціць грошы, а людзі, падаткаплатнікі. Дзяржава вам ня цар, а слуга, і мы маем права патрабаваць ад яе справядлівасьці і сумленьня». Яна расьсьмяялася. У трэцяй я не пыталася нічога, бо я ведаю, што ў маленькіх гарадах і вёсках сапраўды ня трэба нічога фальсыфікаваць. Усё адбываецца само.

Для чаго я гэта ўсё пішу. Для таго, каб мы зразумелі: у нас ня будзе іншых выбарчых камісій. Мы не дагрукаемся да іх чальцоў ніякімі словамі. Яны будуць стаяць насьмерць, баронячы свае пасады, свае выгоды, сваё спакойнае жыцьцё тут і цяпер. Асабліва калі яны будуць разумець, а яны ўжо гэта разумеюць, што за ўкіды бюлетэняў і прыпіскі давядзецца адказваць, калі яны раптам прызнаюцца, пакаюцца і перастануць супрацоўнічаць з уладай.

Што нам рабіць? Ведаць свайго ворага і ня мець надзей на тое, што ён зьнікне. Мацнець і пашырацца.

Спакойна, але няспынна рабіць сваю працу: выхоўваць свабодных і сумленных дзяцей, нічога і ніколі не фальсыфікаваць самім пад любым, нават самым сьвятым, соўсам, падымаць і пашыраць сваю мову, ведаць сваю гісторыю і культуру, адчуваць сябе гаспадаром сваёй зямлі, несьці гэта адчуваньне далей, перадаваць з рук у рукі, уключацца ў грамадзкі рух, не баяцца і не схіляць галавы. …

Безупынна, спакойна і цьвёрда, без залішніх патасных словаў і заклікаў да сумленьня і справядлівасьці, казаць сваім родным і знаёмым, якія бяруць у гэтым удзел: «Гэта фальсыфікацыі. Гэта нічым немагчыма патлумачыць. Ты парушаеш закон». Яны не паверацца, але яны будуць ведаць, што ня маюць падтрымкі.

Гэта надзвычай доўгі шлях. Іншага, на жаль, я ня ведаю.

**Ганна Севярынец**
**"Радыё Свабода"**

РЭХА

# ВЫБАРАЎ НЯМА. АЛЕ ВЫБАР — ЁСЦЬ

**На мінулым тыдні краіна перанесла хваробу, якая афіцыйна завецца выбарамі. І многія перажываюць пасля яе ўскладненні: кагосьці не адпускае галаўны боль і сусветнае расчараванне, у некага круціць пальцы ад падтасоўвання лічбаў у пратаколах, пячэ рукі ад укідаў бюлетэняў, а некага спальваюць згрызоты сумлення.**

Як бы ні было, наступствы ад «вакханаліі» адчуваюць усе, хто прама ці ўскосна браў у ёй удзел. Так, некалькі назіральнікаў вымушаныя былі звяртацца па медычную дапамогу наўпрост на выбарчых участках: у аднаго скокнуў ціск, у другой не вытрымалі нервы… З якімі праявамі «поствыбарчага сіндрому» сутыкнуліся чальцы камісій і галоўныя арганізатары гэтай ліхаманкі, сказаць цяжка, але і для іх яна не прайшла бясследна. Я асабіста ведаю чалавека, які быў сябрам камісіі, і пасля ўсяго, што адбылося, прызнаўся, што яму сорамна за ўдзел у гэтым.

Напачатку ён яшчэ спрабаваў апраўдвацца, што ў яго не было выбару — проста паставілі перад фактам. Яму не хацелася губляць працу ў сталым узросце, псаваць адносіны з кіраўніцтвам… Але, паслухайце, хіба пра адсутнасць выбару тут гаворка? Для мяне ў гэтай сітуацыі выбар якраз відавочны — нежаданне супрацоўнічаць і змагацца за свае правы.

Хіба шмат знойдзецца злодзеяў, якія прызнаюцца, што рабілі злачынства дзеля самога злачынства? Часцей за ўсё злачынцы знаходзяць сабе апраўданне, спасылаюцца на абставіны… Хіба большасць даносаў на сяброў і суседзяў у 1930-х гадах пісалі проста дзеля таго, каб ім нашкодзіць? Не, даносчыкі хацелі адвесці бяду ад сябе. Ну і заадно завалодаць суседскім дабром — усё адно ж прападзе.

Канешне, мяне можна папракнуць у занадта жорсткіх параўнаннях. Але, па-першае, якая розніца, пад які артыкул Крымінальнага кодэкса трапляе злачынства? Яно ўсё адно застаецца злачынствам. Па-другое, ніхто не ў стане даць адказ, на што можа пайсці чалавек, прыціснуты страхам. Сёння ён фальсіфікуе выбары, а заўтра можа пайсці пісаць даносы.

Менавіта страх — тое пачуццё, якое ў нас узрошчвалі не адно пакаленне і ад якога мы так і не здолелі пазбавіцца, жывучы ў незалежнай краіне. Ад таго і «выбары», і шмат якія яшчэ працэсы ў нашай дзяржаве з году ў год адбываюцца па нязменным сцэнары. Страх згубіць нагрэтае месца і добры заробак прымушае людзей марнаваць жыццё на ненавіснай працы. Страх застацца ў адзіноце прымушае жанчын цярпець хатні гвалт. Страх быць раструшчаным сістэмай прымушае моўчкі парушаць закон дзеля ўмацавання гэтай сістэмы. І самае непрыемнае, калі ўзнікае стакгольмскі сіндром, і ахвяры пачынаюць апраўдваць сваіх катаў.

Вось толькі парадокс у тым, што той, хто баіцца, прайграе пры любым раскладзе. Сістэма ўсё гэтак жа будзе падмінаць баязліўца пад сябе, гвалтаўнік усё гэтак жа будзе чыніць здзек з маўклівай ахвяры, працадаўца будзе пагарджаць працаўніком, які баіцца заявіць пра свае правы.

Бо навошта нешта мяняць, калі ўсіх усё задавальняе? Але, як пісаў Караткевіч, Бог даў беларусу дзюбу не для таго, каб ён пішчаў. І, пагатоў, галава дадзеная кожнаму з нас не толькі для таго, каб насіць капялюш і пры нагодзе хаваць яе ў пясок. А перадусім — каб думаць і рабіць выбар.

Бо нават калі ў краіне няма сапраўдных выбараў як формы ўдзелу грамадзян у грамадска-палітычным жыцці дзяржавы, кожны ў стане зрабіць выбар для сябе: баяцца ці не, казаць праўду ці маўчаць, удзельнічаць у злачынстве ці выкрываць яго, заставацца сумленным чалавекам ці пераходзіць на бок пануючага зла.

Ёсць усяго некалькі выпадкаў, калі можна казаць пра адсутнасць выбару: калі пазбаўлены розуму і дзеяздольнасці ці калі знаходзішся ў магіле. Але ж нас з вамі гэта не тычыцца?

**Дзіяна Серадзюк**
**"Новы Час"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку** 30.11.2019 у 18.50
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.